**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№32(696) 8 жніўня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





У Сітцах праваслаўныя вернікі адсвяткавалі 100-годдзе царквы. Архіяпіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій падыходзіць да царквы. *Фота Кастуся Шыталя.*



## Запрашаем на Вадасвятны малебен

11 жніўня, нядзеля, а 10-й гадзіне, у Пастаўскім раёне адбудзецца Вадасвятны малебен святому вялікапакутніку і лекару Панцелеіману.

Маршрут: в. Крывое - в. Сарокі - 700 м у бок в. Норыца – паварот налева да возера.

***Каментар рэдакцыі «ВГ»:*** *Для глыбачан можа быць іншы маршрут: з шашы Полацк-Вільня звярнуць на Норыцу і далей каля 4 км у бок Сарок, паварнуць направа да возера Вешняе. (Возера Вешняе – побач з возерам Крыўым (Крыўскім), вельмі вядомым глыбоцкім рыбакам аматарам).*

***Інфармацыя з Асінагародскага прыходу.***

## Жыхары Шаркоўшчыны могуць атрымаць трывожныя SMS ад МНС

**6 жніўня, абаненты сотавага аператара «Velcom» у Шаркоўшчынскім раёне маглі атрымліваць SMS з тэкстам: «МНС! Тэхнічная праверка сістэмы абвяшчэння Рэспублікі Беларусь».**

Як паведамляе прэс-служба МНС, такім спосабам праводзіцца тэхнічная праверка абвяшчэння насельніцтва пасродкам SMS-рассылання. Раней у сакавіку такое рассыланне атрымалі абаненты МТС і Life у Лёзненскім і Расонскі раёнах, а таксама ў Віцебску.

«Разумеючы неабходнасць аператыўнага інфармавання нашых абанентаў на выпадак магчымага ўзнікнення надзвычайнай сітуацыі, «Velcom» падаў МНС магчымасць правядзення кропкавага тэставання сістэмы SMS-абвяшчэння насельніцтва — паведаміў першы намеснік генеральнага дырэктара IП «Велком» Мікалай Юшкевіч.

Паводле планаў МНС, тэставанне дадатковай сістэмы SMS-абвяшчэння насельніцтва будзе арганізавана сярод абанентаў «Velcom» у перыяд з 5 па 9 жніўня. У гэтыя дні тэставыя SMS атрымаюць толькі некаторыя абаненты.

***Сяржук Серабро.***

Пастаўскі раён

# Папрацавалі, можна і адпачыць

■ Станіслаў Раманчук

**Звычайна ў гарачую летнюю пару ў працаўнікоў вёскі вольнага часу практычна не бывае.**

Аднак у самай вядомай гаспадарцы Пастаўскага раёна, цяпер ААТ “Навасёлкі-Лучай” перад пачаткам жніва ўжо ў пяты раз правялі сваё ўсё больш папулярнае свята працы. На гэты раз народным гулянням у праслаўленай гаспадарцы, дзе і зараз справы добра ладзяцца, не перашкодзіў і спорны дождж у першай палове дня. Урачыстасці перанеслі ва ўтульную залу мясцовага Цэнтра культуры. Там акрамя традыцыйнага ўшанавання многіх вызначыўшыхся на сяўбе, нарыхтоўцы кармоў, на фермах гаспадаркі ўзняў настрой людзям сольны канцэрт папулярнага беларускага спевака і кампазітара Сяргея Славянскага. Такое сваё свята працаўнікі заслужылі, бо толькі ў першым паўгоддзі рэалізавалі вырабленай прадукцыі амаль на 28 млрд. рублёў, прадалі 580 тон мяса і нават 2 тысячы тон малака сортам “Экстра”. Дзякуючы талковай арганізацыі спраў гаспадарка будуе і павінна да канца года атрымаць першую чаргу сучаснай рабатызаванай фермы “Коўзаны”. Для яе работнікаў і спецыялістаў будуць здадзены некалькі закансерваваных раней двухпавярховых дамоў. У адрозненне ад іншых, гаспадарка мае сродкі на тое, каб і развівацца. Да сёлетняй касавіцы набылі новы высокапрадукцыйны кармаўборачны камбайн “Ягуар” у дадатак да леташняга сучаснага прэс-падборшчыка, шэраг іншай тэхнікі. На свята ўрачыстасці ў Навасёлках прадоўжыліся да позняга вечара і на цэнтральнай плошчы, калі дождж спыніўся і засвяцілася сонца.

Віцебская вобласць

# На мяжы банкруцтва

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ некалькі месяцаў назад шмат пелі дыфірамбаў, што па многіх параметрах сацыяльна-эканамічнага развіцця Віцебская вобласць лідзіруе ў Беларусі.** Аднак прайшло днямі ў рэгіёне выязное пасяджэнне прэзідыума Савета Міністраў і высветліўся іншы малюнак. Кіраўнік урада М. Мясніковіч адкрыта выказаў глыбокую занепакоенасць станам спраў у Прыдзвінні і потым перад прэзідэнтам падверг крытыцы дзейнасць кіраўніцтва вобласці. У Саўміне не знайшлі падтрымку таксама прапанаваныя меры па выратаванні лёсу аднаго са старэйшых прадпрыемстваў рэгіёна, панчошна-трыкатажнай фабрыкі “КІМ”. Яе асабіста наведаў прэм'ер і ўбачыў, што тут абсталяванне амаль поўнасцю зношана, вытворчасць ледзь працуе, а склады перапоўнены гатовай прадукцыяй. Між тым фабрыцы тры разы аказвалася дзяржаўная падтрымка, але толькі выраслі даўгі “КІМа”, а з рынку яго выцiскаюць іншыя вытворцы. Так і не абнавілі тут сваю састарэлую матэрыяльна-тэхнічную базу, не правялі тэхнічнае перааснашчэнне. Праўда, пераадолець чорную паласу ў гісторыі прадпрыемства вырашылі традыцыйным беларускім спосабам. Хутчэй усяго праблемную фабрыку ўключаць у склад новага трыкатажнага холдынга, які будзе сфарміраваны на базе вядомага і пакуль эфектыўнага ААТ “Світанак” з Жодзіна. У апошніх ёсць свая нядрэнная сетка збыту прадукцыі, энергічныя спецыялісты. Час пакажа, што атрымаецца з такой задумы і толькі спажывец павінен вызначыць, што ён будзе насіць і чыё адзенне купляць.

Дубровенскі раён

# Па законах марскога братэрства

■ Чэслаў Якубовіч

**На еўрапейскім кантыненце наша краіна ў ліку нямногіх не мае выхаду да мора, аднак сярод беларусаў вырасла шмат знакамітых маракоў і флотаводцаў.**

Вось і ў райцэнтры Дуброўна памятаюць і ганарацца сваім земляком, героем першай руска-турэцкай вайны 1853-1856 гадоў і абароны Севастопаля Аляксандрам Казарскім. Не толькі краязнаўцы ведаюць, што кавалер царскага ордэна святога Георгія служыў пры свіце імператара Мікалая I флігель-ад'ютантам. Беларускі марскі афіцэр камандаваў потым і 48-гарматным караблём “Меркурый” і ў баі на моры атрымаў перамогу над двума турэцкімі. У той час Крымскай вайны мужна ваявалі і яшчэ 8 беларускіх палкоў, якія змагаліся пад Севастопалем. У іх гонар з нагоды 230-годдзя Ваенна-марскога флоту на Паўлаўскім мысе побач з мастом урачыста адкрылі сяміметровы хрысціянскі паклонны крыж, які бачны здалёк. Гэты знак марскога братэрства вырабілі з кавальскага жалеза і сасны, з якіх у мінулым выраблялі караблі. Перад адпраўкай у Крым святыню асвяцілі на ўрачыстай цырымоніі ў кафедральным Свята Успенскім саборы ў Віцебску. Дарэчы, у гэтым украінскім горадзе маракоў, базе Чарнаморскага флоту, ёсць і вуліца Віцебская, а самім флотам камандуе цяпер віцэ-адмірал Аляксандр Вітко, які нарадзіўся ў нашым абласным цэнтры.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 08.08.13 | | | | Пятніца 09.08.13 | | | | Субота 10.08.13 | | | | Нядзеля 11.08.13 | | | | Пнд.120.08.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +22 | +28 | +23 | +18 | +23 | +27 | +21 | +17 | +19 | +22 | +18 | +14 | +17 | +23 | +19 | +13 | +19 | +24 |
| Ціск | 749 | 750 | 749 | 748 | 747 | 747 | 747 | 747 | 747 | 747 | 748 | 748 | 748 | 748 | 749 | 749 | 749 | 749 | 748 |
| Вільготнасць | 87 | 72 | 42 | 69 | 74 | 63 | 52 | 89 | 99 | 84 | 62 | 80 | 91 | 83 | 49 | 83 | 94 | 76 | 47 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-У | 2 Пд | 5 Пд | 4 Пд-У | 4 Пд | 6 Пд | 6 Пд-З | 2 Пн-З | 1 Пн | 1 З | 4 Пд-З | 2 Пн-З | 1 Пн | 0 ШТЛ | 0 ШТЛ | 1 З | 2 Пд-У | 3 Пд | 4 Пд |

Аб самым надзённым

# НА АЙЧЫННЫМ ВАЛЮТНЫМ РЫНКУ ЗНОЎ НЕСПАКОЙНА, РУБЛІ “СЛАБЕЮЦЬ”, А БЕЛАРУСЫ АКТЫЎНА СКУПЛЯЮЦЬ ДОЛАРЫ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Як ні круці, а прыйдзецца нам усім вучыцца жыць па сродках. З іншага боку стаіць задача нарошчваць тэмпы росту зарплат і па-ранейшаму гаварыць, што не дапусцяць бандыцкай прыватызацыі. Такое адчуванне, што сітуацыя даволі хісткая і якім будзе ў далейшым курс беларускага рубля, вырашыць толькі агульны стан айчыннай эканомікі.**

Вось ужо, сапраўды, такое адчуванне, што ў нас многія падзеі паўтараюцца і разгортваюцца як дэ жа вю. Не стала выключэннем і сёлетняе лета, бо спецыялісты і ўслед за імі насельніцтва адзначылі ўжо ў чэрвені пэўнае напружанне на валютным рынку Беларусі. Як вынік гэтага, народ стаў актыўней скупляць “зялёненькія”, а нацыянальная валюта – беларускі рубель стаў хутка таннець. На шчасце, да сапраўднай панікі ў абменніках справы не дайшлі, але і пэўны перыяд фінансавай стабільнасці ў нас завяршыўся.

Пацвярджаюцьгэтаіфакты. У сярэдзіне лета курс долара дасягнуў свайго гістарычнага максімуму, амаль 9 тысяч рублёў на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы. Амерыканскія банкноты з пачатку года для беларусаў падаражэлі ў першым паўгоддзі на 2,6 % і менавіта ў чэрвені іх курс найбольш імкліва рос штодзень. Попыт на валюту істотна паярэдзіў яе прапановы і нават сама глава Нацбанка РБ Надзея Ермакова прызнала, што некалькі разоў прыйшлося займацца валютнымі інтэрвенцыямі, каб стрымаць рэзкі курс долара.

Ускладняе сітуацыю і шэраг іншых прычын. Горш леташняга прадаецца беларуская прадукцыя на знешніх рынках, шмат яе асела на складах. Да таго ж нашай краіне сёлета прыйдзецца выплаціць знешнім крэдыторам па ранейшых крэдытах і абавязацельствах урада да канца года 3,6 млрд. USD. У наступным годзе тут таксама свае складанасці, бо беларусы павінны выплаціць яшчэ больш 3 мільярдаў. Аднак адзначым, што Нацбанк захоўвае нязменнай сваю грашова-крэдытную палітыку і адмовіўся ад далейшага зніжэння стаўкі рэфінансавання.

З гэтай нагоды невыпадковай стала нарада пад старшынствам кіраўніка дзяржавы па пытаннях рэалізацыі калійных угнаенняў. У гэтай сферы Беларусь можа зарабіць патрэбную сабе валюту, калі павялічыць эфектыўнасць прадаж калію праз узаемадзеянне з Расіяй і праз Беларускую калійную кампанію. Добра, што абодва бакі дасягнулі ўзаемапаразумення, працуючы на парытэтных умовах 50/50, а расіяне згодныя на ўзмацненні ролі нашых спецыялістаў у кіраванні гэтай кампаніяй.

Усе гэтыя валютныя, скажам так, хістанні адбываюцца на фоне зніжэння летам тэмпаў інфляцыі ( у чэрвені рост цэн запаволіўся да рэкордных 0,3 % ). Адначасова ў Беларусі, як і ў сярэдзіне мінулага дзесяцігоддзя, зноў быў зафіксаваны кватэрны бум, спыніліся на нейкі час спрэчкі і хваляванні на рынках наконт правілаў гандлю адзеннем і іншымі прамтаварамі. Аднак і беларусы ў чэрвені стараліся і купілі замежнай наяўнай валюты толькі за адзін месяц у чэрвені амаль на 772 млн. долараў, а прадалі яе значна меней – 593,1 млн. USD. Аналагічны малюнак назіраўся і ў сферы безнаяўных аперацый па скупцы і продажу валюты.

Самае галоўнае, што ўпраўленцамі Нацбанка прымаюцца патрэбныя меры і сітуацыя на валютным рынку спакойная. Заробкі ў беларусаў пакрыху растуць, вось яны і частку свабодных сродкаў укладваюць у набыццё валюты, якую можна набыць без праблем і без асаблівай чаргі, не так як у крызісным 2011 годзе. З іншага боку айчынныя банкі павысілі працэнтныя стаўкі па рублёвых дэпазітах. І ўсё ж на падтрымку беларускага рубля трацяцца значныя сродкі. Няцяжка здагадацца, што ў такіх варунках паўстае пытанне захавання золатавалютных рэзерваў і пры дрэнным развіцці падзей чарговай плаўнай, альбо рэзкай дэвальвацыі рубля.

Напрыклад, адзін з першых кіраўнікоў банкаўскай сістэмы прафесар Станіслаў Багданкевіч спрагназаваў, што ў канцы снежня сёлета курс долара можа вырасці нават да 9500 рублёў. Далей нацвалюце падаць будзе нельга, бо гэта выкліча сапраўдны крызіс, паніку і непазбежную дэвальвацыю, што мы ўжо праходзілі. Каб не здарылася новая бяда, павінен палепшыцца стан знешняга гандлю, гэта відавочна ўсім. Але ж пакуль тут няма чым хваліцца, такое сальда адмоўнае, мы акрамя выплат па замежных крэдытах цяпер толькі Расіі вымушаны плаціць штомесяц 300 млн. долараў вывазных мытных пошлін за гандаль нафтапрадуктамі з яе нафты.

Як ні круці, а прыйдзецца нам усім вучыцца жыць па сродках. З іншага боку стаіць задача нарошчваць тэмпы росту зарплат і па-ранейшаму гаварыць, што не дапусцяць бандыцкай прыватызацыі. Такое адчуванне, што сітуацыя даволі хісткая і якім будзе ў далейшым курс беларускага рубля, вырашыць толькі агульны стан айчыннай эканомікі.

## Дзень за днём

**Урад Беларусі вырашыў змяніць парадак фінансавання з бюджэту арганізацый ЖКГ. Складскія запасы ў чэрвені ўдалося скараціць на 1,2 трлн. рублёў, але яны яшчэ вялікія. Аплата за навучанне ў айчынных ВНУ з 1 верасня павысіцца на 20 %. Таксама павысіліся тарыфы на перавозкі на міжгародных аўтобусных рэйсах рэгулярных зносін. У Беларусі зноў пачаўся, як і 8 гадоў назад, кватэрны бум, а вось далейшае пашырэнне свабодных эканамічных зон прыпынілі. Беларусы зноў сталі актыўна скупляць замежную валюту з-за пагрозы чарговай дэвальвацыі рубля. Па ўсёй краіне актывізаваўся пашыраны гандаль таварамі для школьнікаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Еўрасаюз заявіў аб адсутнасці вяршэнства закона ў Расіі, асудзіў і назваў неабгрунтаваным прысуд (5 гадоў калоніі) адnaму з лідараў апазіцыі А. Навальнаму.

**Італія.** Эканоміка краіны, трэцяя па велічыні ў зоне еўра, уступіла ў самую моцную рэцэсію з часоў вайны, дзяржаўны доўг перавысіў 130 % ВУП, спад вытворчасці – 8 %.

**Англія.** Жыхароў краіны парадавала нараджэнне наследніка брытанскай кароны вагой 3,8 кг, праўнука каралевы Елізаветы II, ён стаў трэцім у чарзе на каралеўскі трон.

**Расія.** Краіна летам устанавіла рэкорд па здабычы нафты да 11 мільёнаў барэлей у суткі, ідзе паспяхова мадэрнізацыя расійскіх нафтаперапрацоўчых заводаў, нафтапрадукты перасталі быць дэфіцытам.

**Егіпет.** Кангрэс ЗША зацвердзіў пастаўкі егіпецкай арміі 4 знішчальнікаў і ваеннай дапамогі на 1,5 млрд. $, але заклікаў яе стрымана адносіцца да пратэстаў мусульман.

**Літва.** Прэм'ер-міністр Альгірдас Буткявічус пацвердзіў, што вясной 2014 года краіна падасць заяўку на ўступленне ў зону еўра, сёлета тут назіраецца нават дэфляцыя.

**ЗША.** Упершыню ў гісторыі краіны ўлады Дэтройта звярнуліся ў суд з просьбай прызнаць былы цэнтр аўтаіндустрыі банкротам, агульная сума даўгоў дасягнула 20 млрд. USD.

**Англія.** Каралева Елізавета II фармальна зацвердзіла прыняты парламентам закон аб легалізацыі аднаполых шлюбаў, гэты крок раскалоў правячую партыю кансерватараў.

**Бразілія.** Папа Рымскі Францыск ажыццявіў сюды свой першы тыднёвы замежны візіт, пантыфіка паўсюдна шчыра віталі мільёны бразільскіх вернікаў і паломнікаў.

**Іспанія.** Кампанія Movistar выпусціла навінку: самыя танныя ў свеце смартфоны коштам 69 еўра з картай памяці на 4 Гб для карыстальнікаў папулярных сацсетак Інтэрнета.

**Венесуэла.** Як і абяцаў перад выбарамі, новы прэзідэнт Нікалас Мадура ажаніўся з генпракурорам краіны Сіліяй Флорэс, з якой шмат гадоў жыў у грамадзянскім шлюбе.

**ААЭ.** Абурэнне ўлад Нарвегіі выклікаў прысуд суда – 16 месяцаў турмы 24-гадовай дызайнеру Марце Далелв пасля падачы заявы ў паліцыю аб згвалтаванні яе ў Дубаі.

**Таджыкістан.** Урад краіны выставіў на продаж горнае Сарэзскае возера, яно пагражае магутным паводкам суседнім рэгіёнам і трэба неадкладна спусціць з яго ваду.

**Новая Зеландыя.** Паблізу сталіцы Велінгтана адбыўся магутны землятрус сілай 6,9 бала на глыбіні 10 км у акіяне, у адрозненне ад землятрусу 2011 года яго наступствы меншыя.

**Англія.** Больш чым на 1 млрд. фунтаў стэрлінгаў даходаў ужо акупіліся расходы ўрада краіны на правядзенне год назад летняй Алімпіяды ў Лондане, прыбытак будзе расці.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Гродна.** Канцэрн "Белнафтахім" дамовіўся ў Маскве з "Газпрамам" аб пачатку работ па схеме супрацоўніцтва па інвестыцыйнаму праекту на мясцовым ААТ "Гродна Азот".

**Мінск.** Калі людзі не зразумеюць, як заявіў акадэмік Іван Шэйко, што трэба выконваць патрабаванні веэрынарных служб, то Беларусь можа апынуцца ў складаным становішчы па афрыканскай чуме свіней.

**Маладзечна.** З мэтай прафілактыкі афрыканскай чумы свіней на рынках забаранілі гандляваць свежым свіным мясам і каўбасамі, у продажы толькі курацінa і ялавічына.

**Магілёў.** На тэрыторыі СЭЗ "Магілёў" літоўская кампанія VMG і канцэрн SBA пабудавалі за 95 мільёнаў еўра магутны дрэваапрацоўчы комплекс, стварылі больш 1 тысячу рабочых месц.

**Мінск.** Спецыялісты скептычна аднесліся да заявы міністра спорту і турызму РБ, генерала МНС А. Шамко, што на зімовай Алімпіядзе ў Сочы беларусы заваююць 5 медалёў.

**Бяроза.** У доследным рыбгасе "Сялец" з-за малой колькасці кіслароду ў вадзе ў выніку масавага мору загінула 30 тон карпу, амура, азёрнай рыбы, пачалося расследванне.

**Любань.** У роднай вёсцы Урэчча пахавалі памерлую ў 46 гадоў ад раку дырэктара групы кампаній SATIO, вядомага псіхолага і грамадскага дзеяча Жанну Грынюк.

**Мінск.** Адзін з самых цікавых і чытаемых айчынных аўтараў Андрэй Федарэнка пакінуў афіцыйны Саюз пісьменнікаў Беларусі, якім зараз кіруе генерал Мікалай Чаргінец.

**Барысаў.** Да 15 гадоў турмы пагражае 20-гадоваму гараджаніну, які вясной пасварыўся і задушыў свайго 65-гадовага дзеда ў ягоным доме, а труп потым схаваў у канапе.

**Лагойск.** Каробку з 40 мільёнаў рублёў згубіла па няўважлівасці падчас язды на аўтамабілі прадпрымальніца за вёскай Моладзі, дзе яна закупляла ягады ў насельніцтва.

**Крычаў.** Невядомы мярзотнік падпаліў ноччу ў мікрараёне "Сож" адразу 4 прыпаркаваныя легкавушкі, агонь поўнасцю знішчыў Wolkswaqen Golf, пашкодзіў салоны яшчэ 3 машын.

**Стаўбцы.** На дрэве ў лесе ў аздараўленчым лагеры павесіўся 11-гадовы хлопчык, ён не меў праблем у прыёмнай сям'і, але вельмі сумаваў па біялагічнай маці, адчуваў сваю віну.

**Гродна.** У канцы лета пачнуцца здымкі заключных сцэн працягу славутай кінакамедыі "Белыя росы", прэм'ера гэтай новай стужкі адбудзецца ў лютым 2014 года.

**Салігорск.** У пад'ездзе ўласнага дома знайшлі нежывым 44-гадовага вядомага футбаліста, іграка БАТЭ і экс-капітана "Шахцёра" Анатоля Будаева, ён пасля кар'еры футбаліста працаваў на шахце

**Мінск.** З-за недахопу рабочых-аддзелачнікаў увод у эксплуатацыю новага комплексу для чэмпіянату свету па хакеі -2014 "Чыжоўка-Арэна" з 9 верасня перанеслі на 1 снежня.

# Банкі могуць абавязаць падаваць у падатковую звесткі аб кліентах



■ Дзмітрый Заяц, БелаПАН

**Банкі могуць абавязаць падаваць у падатковыя органы звесткі аб выдадзеных крэдытах фізічным асобам, а таксама аб налічаных працэнтах па ўкладах. Адпаведная норма змяшчаецца ў законапраекце аб унясенні змяненняў у Падатковы кодэкс.**

Дакумент, як сказана ў абгрунтаванні да законапраекта, мяркуе «абавязаць банкі прадстаўляць звесткі аб выдадзеных, вернутых (пагашаных) крэдытах банка, налічаных (выплачаных) працэнтах па ўкладах (дэпазітах) фізічнай асобы па запыце падатковага органа».

У абгрунтаванні да законапраекта, тэкстам якога валодае БелаПАН, гаворыцца пра тое, што 121-ы артыкул Банкаўскага кодэкса (аб банкаўскай тайне, якая гарантуе канфідэнцыяльнасць кліенцкіх дадзеных) да гэтага часу не дазваляла падатковым органам атрымаць усю неабходную інфармацыю аб кліентах банкаў.

«Пры праверках пытання захавання фізічнымі асобамі парадку дэкларавання даходаў і маёмасці, у тым ліку якія праводзяцца ў мэтах выяўлення асоб, якія жывуць» не па сродках «, падатковыя органы ў сілу артыкула 121 Банкаўскага кодэкса не маюць магчымасці правяраць дакладнасць прадстаўленых звестак, калі ў якасці крыніцы грашовых сродкаў, накіраваных на набыццё дарагой маёмасці, фізічнай асобай заяўлены крэдытныя сродкі банка або працэнты, атрыманыя ў дачыненні да сродкаў, размешчаных ім на ўкладных (дэпазітных) рахунках у банках «, - гаворыцца ў абгрунтаванні.

Па дадзеных, якія прыводзяцца ў ім, «на практыцы маюць месца выпадкі атрымання фізічнай асобай крэдыту ў банку ў мэтах прад'ўлення ў падатковы орган крэдытнага дагавора як дакумента, які пацвярджае наяўнасць крыніцы грашовых сродкаў, накіраваных на набыццё дарагой маёмасці».Пасля пагашэнне крэдыту здзяйсняецца фізічнай асобай у кароткія тэрміны, напрыклад, на працягу тыдня, адзначае Мінфін у абгрунтаванні да законапраекта.

«У рэальнасці набыццё дарагой маёмасці праводзіцца фізічнай асобай за кошт» ценявых даходаў «, а заключаецца дагавор у мэтах легалізацыі» ценявых даходаў «і ўхілення ад падаткаабкладання», - гаворыцца ў абгрунтаванні. Каб выяўляць такія выпадкі, распрацоўшчыкі законапраекта прапануюць абавязаць банкі прадастаўляць у падатковыя органы звесткі аб выдадзеных крэдытах і налічаных працэнтах па ўкладах фізічных асоб.

Варта адзначыць, што за апошні месяц тэма барацьбы з ценявой эканомікай некалькі разоў абмяркоўвалася на афіцыйным узроўні. Пытанне барацьбы з ценявой эканомікай ўздымалася таксама на нарадзе ў прэзідэнта 1 жніўня. Міністр па падатках і зборах Уладзімір Палуян ацаніў аб'ём такой эканомікі ў Беларусі ў 8-10% ад ВУП. «Ад гэтых працэнтаў мы павінны максімальна забраць тую частку, якая належыць бюджэту, каб грошы працавалі для ўсяго грамадства», - падкрэсліў Палуян

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Кіраўнік урада РБ М. Мясніковіч раскрытыкаваў главу вобласці А. Косінца за вялізныя даўгі, за правалы ў развіцці эканомікі, будаўніцтве жылля, сельскай гаспадаркі.

**Лёзна.** Жыхароў раёна ўстрывожыла, што паблізу расійскай граніцы ў двух вёсках Смаленскай вобласці і ля трасы М1 Масква-Мінск выявілі афрыканскую чуму свіней.

**Полацк.** З новага навучальнага года мясцовы дзяржуніверсітэт адкрые дыстанцыйную форму навучання па пяці спецыяльнасцях у рэжыме онлайн, падрыхтоўка заняла 10 год.

**Гарадок.** Услед за ўзгараннем камбайна на полі ў Аршанскім раёне ля фермы ў вёсцы Маскаляняты загарэлася сіласная яма, агонь знішчыў увесь верхні слой насцілу ямы.

**Чашнікі.** Вечарам каля магазіна вёскі Гара 41-гадовая жонка па неасцярожнасці на сваіх "Жыгулях" наехала на прысеўшага на лаўку пакурыць мужа, які пазней памёр у бальніцы.

**Паставы.** На базе мясцовага лягсага і Полаўскага лясніцтва адбыўся рэспубліканскі навуковапрактычны семінар па пытаннях развіцця пчалярства і вырошчвання ягад.

**Віцебск.** "Рэкордным" у РБ стала падзенне на 33 % у вобласці аб'ёмаў уводу жылля ў эксплуатацыю, яго доля з дзяржпадтрымкай скарацілася з пачатку года на 52,1 %.

**Глыбокае.** У лясным масіве ля вёскі Горкі трагічна загінулі муж з жонкай, паваленае дрэва нанесла смяротныя траўмы 41-гадовай настаўніцы школы і яе суджанаму.

**Полацк.** Праз 9 гадоў у аднавіўшым сваю працу мясцовым медыцынскім каледжы зноў адбыўся новы выпуск 44 маладых дыпламаваных медсясцёр і 28 фельдшараў.

**Бешанковічы.** Ноччу 38-гадовы жыхар райцэнтра, які зноў быў пазбаўлены вадзіцельскіх правоў, за вёскай Дразды наехаў на ляжаўшага на дарозе хлопца, той памёр у бальніцы.

**Шуміліна.** У райцэнтры завяршылі капітальны рамонт былога вучэбнавытворчага камбіната, у двухпавярховым будынку справіць наваселле дзіцячая школа мастацтваў.

**Віцебск.** Супрацоўнікі мясцовай мытні сумесна з міліцыяй на трасе на Смаленск затрымалі джып, у якім жыхар Мінска нелегальна перавозіў айфоны на 180 тысяч долараў.

**Лёзна.** Падчас калектыўнага палявання на дзікіх кабаноў з-за пагрозы АЧС каля 11 гадзін вечара 32-гадовы рабочы па неасцярожнасці застрэліў 55-гадовага паляўнічтвазнаўцу.

**Орша.** У горадзе затрымалі 60-гадовага крымінальнага аўтарытэта, калі ён вымагаў пад пагрозай расправы грошы ў мясцовага прадпрымальніка, злачынцу пагражае 10 год турмы

**Чашнікі.** Трэці па ліку будатрад з 25 старшакласнікаў з райцэнтра пачаў працу па добраўпарадкаванні і афарбоўцы двух рэканструіруемых ферм калгаса "Красналукскае".

*Служба інфармацыі "ВГ".*



■ Кастусь Шыталь

# У Сітцах праваслаўныя вернікі адсвяткавалі 100-годдзе царквы



**Першага жніўня праваслаўныя вернікі вёскі Сітцы (Докшыцкі раён) адсвяткавалі 100-годдзе свайго храма. На ўрачыстасць сабраліся пад 400 чалавек. Літургію служыў архіяпіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій. Пасля набажэнства вернікі прайшлі па вёсцы хросным ходам.**

Святыню ўсходняга абраду ў Сітцах згадваюць гістарычныя крыніцы яшчэ ў 1690 годзе. Старая сіцкая царква – гэта невялікі драўляны храм без цыбуліны, з адной вежай, абнесены драўлянай агароджай з мураванымі шуламі. Пра яго выгляд мы ведаем па фотаздымку пачатку ХХ стагоддзя.

Новую вялікую царкву з белай цэглы змуравалі ў 1913 годзе. Настаяцелем храма тады быў айцец Яўстафій Нядзельскі. У 1935 годзе яго забілі бандыты – звычайныя крымінальнікі, якія пранюхалі, што настаяцель будзе везці вялікія грошы. Вернікі пахавалі бацюшку за царквой, вакол яго магілы растуць кветкі.

Царква асвечана ў гонар святога Георгія Пераможцы. То быў афіцэр рымскага войска родам з Малой Азіі. За сваю веру ён быў пакараны смерцю ў 303 годзе, калі імператар Дыяклетыян чарговы раз спрабаваў знішчыць хрысціянства. На абразах пакутніка малююць на белым кані, кап'ём ён забівае Цмока.

У Сітцах вельмі шануюць і святога Серафіма Сароўскага, манаха з-пад Ніжняга Ноўгарада, чыё жыццё, якое прыпадае на 1754-1833 гады, было багатае на цуды. Святы Серафім запомніўся тым, што круглы год вітаў людзей словамі "Хрыстос уваскрос!" Памятаюць і такое яго выказванне: "Здабудзь дух супакою – і вакол цябе збавяцца тысячы".

Спадчына такіх людзей, як Серафім Сароўскі, перасягае межы народаў і канфесій. Яна належыць усяму чалавецтву. За дваццаць кіламетраў ад Сітцаў, у вёсцы Бярозаўка, абраз святога Серафіма змешчаны ў алтары каталіцкай капліцы, побач з абразом святога Францішка з Асізі.

У Сітцах на святога Серафіма – першага жніўня – штогод бывае фэст.

Ад самае раніцы збіраюцца ў храм людзі. Палова на дзявятую – а ў царкве ўжо сотня чалавек. Найбольш то старыя бабулькі, апранутыя па-святочнаму, з белымі хусткамі на галовах. Набожна хрысціцца і кланяюцца яшчэ перад прыступкамі храма. Ёсць трохі мужчын, дзяцей і моладзі.

"С празьнікам!" – віншуюць адзін аднаго вернікі. Слова "свята" тут ужо забыліся.

"Ваў, как тут красіва!", - усклікае малы з цацачным пісталетам залацістага колеру, якога вядзе ў храм бабуля. Падарунак унуку яна набыла ў гандляроў, якія расставілі свае намёты на вуліцы перад царквой. Сёння чацвер – кірмашовы дзень у Сітцах. Яшчэ дзяцей вабяць самаробныя цукеркі – які ж гэта фэст без пеўнікаў-смактулек?

У царкве насамрэч прыгожа. Да юбілею яе паднавілі і звонку, і ўнутры. Са столі, пафарбаванай у нябесны блакітны колер, пазіраюць чацвёра евангелістаў. Вышэй, пад самым купалам – дванаццаць апосталаў. Над залацістым іканастасам раскінулася вясёлка – гэта сімвал запавету, які Бог заключыў з Ноем, абяцаючы, што больш не будзе ўсясветнага патопу.

"Спасай нас своими молитвами, Серафиме, преподобный отче наш!", – гучна моліцца святар, стоячы перад Царскімі варотамі. Высока пад столлю пяе хор. Псальмы даносяцца нібы з самога неба.



Дзяўчына выкладае дарожку з кветак, па якой мае прайсці архіяпіскап Феадосій. *Фота Кастуся Шыталя.*

Абразоў святога Серафіма ў храме ажно чатыры. Абгорнуты вышываным ручніком, адзін з іх пакладзены на аналоі на сярэдзіне храма. Людзі падыходзяць, хрысцяцца, цалуюць абраз, кідаюць грошы на ахвяру.

Другі абраз святога Серафіма стаіць у ківоце злева – перад ім ставяць свечкі. Трэці паміж іканастасам і абразам Маці Божай Вастрабрамскай – на гістарычнай Віленшчыне яе шануюць і каталікі і праваслаўныя. Чацвёрты абраз, самы вялікі, вытканы на дыване.

Пабачыўшы, што я фатаграфую, мяне кліча настаяцель. Кажу яму, хто я такі і навошта здымаю. "Смотрите, чтобы было во благо", - наказвае мне бацюшка.

Падчас набажэнства ў храме пануе рух. Людзі заходзяць і выходзяць. Ідуць наперад, каб пацалаваць абраз і паставіць свечку. Святар моліцца. Хор спявае. Бабулькі шэптам перамаўляюцца, седзячы на лаўках. "Дорогие братия, соблюдайте тишину", - гучна кажа бацюшка. Бабулькі на хвіліну замаўкаюць, ды потым працягваюць размову.



Набажэнства з удзелам архіяпіскапа. *Фота Кастуся Шыталя.*

Перад царкоўным ганкам дзяўчаты выкладаюць агромністы дыван з кветак. Па ім мае прайсці Уладыка – архіяпіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій. Людзі глядзяць на раскладзеныя кветкі і хваляць – якая прыгажосць! – і фатаграфуюць мабільнымі тэлефонамі.

Нарэшце архіяпіскап прыехаў. Уладыка выходзіць са свайго мікрааўтобуса, ідзе да вернікаў. Каля брамы яго спыняюць дзеці, дораць кветкі. Не куплёныя, са сваіх палісаднікаў. "Са святам!" – некалькі разоў усклікае ўладыка, вітаючы людзей. Менавіта так, па-беларуску, "са святам!"

На парозе царквы архіяпіскапа Феадосія сустракае прыхаджанін Тадэвуш з караваем і жонка святара з букетам кветак. "Православный Вы, Тадеуш?" – перапытвае архіяпіскап.

Калі архіяпіскап пераступіў парог храма, яму накідваюць аблачэнне бэзавага колеру з бел-чырвона-белымі стужкамі. Праз колькі хвілін яго мяняюць на літургічнае аблачэнне – уладыка будзе служыць Літургію. У храме нарэшце запанавала цішыня. Усе глядзяць на Уладыку, ён моліцца без мікрафона, але ўсё добра чуваць.

Хор спявае псалмы. Меладычныя іх спевы, здаецца, самы прыгожы элемент праваслаўных набажэнстваў. Потым такой жа прыгожай мелодыяй хор выводзіць Нагорную казань Хрыста. Проста стой і слухай.

"Святый Боже, Святый Крепкий, Святый Бессмертный, помилуй нас!", - моліцца архіяпіскап, выйшаўшы з алтара, з такой інтанацыяй, якая не пакідае сумневаў у шчырасці яго малітвы.

У царкву забягае старшыня райвыканкама – ставіць свечку перад абразом Серафіма, хрысціцца і адразу некуды знікае. Прыгадваю іранічныя словы аднаго праваслаўнага святара: "Некаторыя лічаць, што паставіць свечку – гэта галоўнае таінства ў царкве".

Храм раптоўна пусцее перад Прычасцем. Палова людзей выходзіць на двор. Прычасце ўдзяляе сам архіяпіскап, голасна і шчыра моліцца перад гэтым. Цела і Кроў Хрыста прымаюць некалькі дзясяткаў чалавек. З іх большасць – малыя дзеці, якіх бацькі падносяць да Чашы, ды купка старых бабулек.

Пасля Літургіі пачаўся хросны ход. Людзі нясуць крыж, харугві, абразы. Спачатку абыходзяць храм, потым выходзяць на вясковую вуліцу. Архіяпіскап Феадосій кропіць людзей свянцонай вадой, яшчэ некалькі разоў голасна віншуе: "Са святам!"

# Парушэнні маюцца

У адпаведнасці з кардынацыйным планам кантрольнай (нагляднай) дзейнасці Віцебскай вобласці на другое паўгоддзе 2013 г. інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага РАНС у ліпені месяцы праведзеныя праверкі забеспячэння пажарнай бяспекі ПГУП «Касцюк і сын» (дырэктар Касцюк Е.Г.), камунальнага паліграфічнага ўнітарнага прадпрыемства «Глыбоцкая друкарня» (дырэктар Каралевіч Г.А.), дзяржаўнай установы «Глыбоцкі раённы фізкультурна-аздараўленчы цэнтр» (дырэктар Чыжэўскі К.С.), а таксама праведзена пазапланавая праверка ІП Ігнаценка С.А.

**ПГУП «Касцюк і сын»**

Па выніках планавай праверкі ПГУП «Касцюк і сын» выяўлены парушэнні тэхнічных нарматыўнаправавых актаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі. Памяшканні адміністрацыйнага будынка, размешчанага па адрасе: г. Глыбокае, вул. Леніна, 4, не абсталяваныя аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй. У адміністрацыйным будынку, размешчаным па адрасе: Глыбокае, вул. Чырвоных Партызан, 1А, не праводзіцца тэхнічнае абслугоўванне і рамонт установак сігналізацыі, згаральныя канструкцыі паддашкавага памяшкання не апрацаваны вогнеабаронным саставам, будынак не забяспечана спраўнай маланкаабаронай.

Навучанне працаўнікоў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме, пройдзена навучанне па праграме пажарнатэхнічнага мінімуму, не з усімі працаўнікамі праведзены паўторныя інструктажы аб мерах пажарнай бяспекі, не арганізоўцца практычныя трэніроўкі па адпрацоўцы плану эвакуацыі.

**Камунальнае паліграфічнае ўнітарнае прадпрыемства «Глыбоцкая друкарня»**

Пры правядзенні планавай праверкі камунальнага паліграфічнага ўнітарнага прадпрыемства «Глыбоцкая друкарня» быў выяўлены шэраг парушэнняў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі. Памяшканні друкарні не абсталяваныя ўстаноўкамі пажарнай аўтаматыкі, што ў сваю чаргу перашкаджае хуткаму выяўленню пажару. Будынак друкарні не абсталяваны маланкаабаронай, не праведзена вогнеабаронная апрацоўка будынічых канструкцый паддашкавага памяшкання, у супрацьпажарным разрыве паміж памяшканнямі складуюцца дровы для кацельні.

**Дзяржаўная ўстанова «Глыбоцкі раённы фізкультурна-аздараўленчы цэнтр»**

Памяшканні цэнтра не абсталяваны ўстаноўкамі пажарнай аўтаматыкі, будынак цэнтра не забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння. План эвакуацыі людзей на першым паверсе распрацаваны з парушэннем нормаў, на другім паверсе план эвакуацыі адсутнічае. Шляхі эвакуацыі і эвакуацыйныя выйсці не пазначаныя прадпісвальнымі знакамі паводле СТБ. На шляхах эвакуацыі пад лесвічным маршам уладкована дапаможнае памяшканне, складуюцца гаручыя матэрыялы, дзверы запаснога эвакуацыйнага выйсця зачынена на замок, што ў сваю чаргу перашкаджае хуткай бесперашкоднай эвакуацыі людзей з будынка цэнтра пры пажары.

Навучанне працаўнікоў цэнтра правілам пажарнай бяспекі знаходзіцца на нізкім узроўні. З працаўнікамі не праведзены інструктаж аб мерах пажарнай бяспекі, інструкцыі не распрацаваны і не зацверджаныя кіраўніцтвам цэнтра.

**ІП Ігнаценко С.А.**

Падчас правядзення пазапланавай праверкі ўстаноўлена, што работа па забеспячэнні пажарнай бяспекі індывідуальным прадпрымальнікам праводзіцца на недастатковым узроўні. Па выніках праверкі выяўлена нязначная колькасць парушэнняў тэхнічных нарматыўнаправавых актаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі, на ўхіленне якіх не патрабуецца значнага ўкладання фінансавых сродкаў. Індывідуальным прадпрымальнікам не распрацаваны і не вывешаны план эвакуацыі людзей і матэрыяльных каштоўнасцяў на выпадак узнікненне пажару, у будынку крамы не праведзены замер супраціву ізаляцыі электрычных правадоў і кабеляў, не прадстаўлена дакументацыя, якая пацвярджае правядзенне электрафізічных вымярэнняў электраабсталявання і электраправодкі. Патрабаванні тэхнічных нарматыўных прававых актаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі не вывучаны ў поўным аб'ёме.

Па выніках праверак да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты кіраўнікі ўказаных суб'ектаў, вызначаны тэрміны ўхілення парушэнняў.

***Інспекцыя ІДПН Глыбоцкага РАНС.***



■ **Кліменцій Кожан,** краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

# Помніку князю Альгерду – быць

**Праз Глыбокае праходзіць старадаўні тракт, які клічуць у народзе Альгердаў Шлях (вул. Леніна і Горкага), які ідзе з Вільні на Полацк. Гэта значыць – нага Вялікага князя Літоўскага Альгерда ступала на глыбоцкую зямлю.**

**Нагадаем нашым чытачам, што да 1840 года тэрыторыя сённяшняй Беларусі называлася Літвой, а сённяшнія беларусы тады менаваліся ліцвінамі.**

**З праціўнікамі ўстаноўкі помніка кіраўніку колішняй беларускай дзяржавы Альгерду ў Віцебску спрачаецца краязнаўца Кліменцій Кожан, наш сталы аўтар.**

У Віцебску планавалася ўстанавіць помнік князю Альгерду, заснавальніку віцебскіх замкаў. Манументальны вершнік (коннік) павінен прапагандаваць гісторыю краіны і горада Віцебска. На гэты праект атрымана згода Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Але знайшліся праціўнікі ўстаноўкі помніка князю Альгерду. У расійскіх сродках масавай інфармацыі з'явіліся паведамленні аб тым, што не толькі рускія актывісты некаторых грамадскіх арганізацый Віцебска, але і жыхары горада выступілі супраць помніка літоўскаму князю Альгерду. Выходзіць, ледзь не ўвесь Віцебск выступіў супраць помніка князю, а паміж Беларуссю і Літвой узнік канфлікт. У расійскіх сродках масавай інфармацыі і ў нас многія не разабраліся, што Вялікае Княства Літоўскае – гэта сённяшняя Беларусь, потым былі далучаны тэрыторыі цяперашняй Украіны (Русі) і Жамойці (цяперашняй Летувы), таму поўная назва дзяржавы ў часы Альгерда была Вялікае Княства Літоўскае і Рускае, дзе пад словам Літоўскае разумеліся землі сучаснай Беларусі, а пад словам Рускае – землі сучаснай Украіны (Русі). Тэрыторыя Жамойці (цяперашняй Летувы) у часы Альгерда ўваходзіла ў склад Тэўтонскага Ордэна. Толькі пасля разгрому войск Тэўтонскага Ордэна ў 1410 годзе пад Грунвальдам землі Жамойці былі далучаны да Вялікага Княства Літоўскага і Рускага. Пасля гэтага поўная назва дзяржавы стала такой – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Такім чынам, Альгерд – не жамойцкі князь, як многія думаюць, а выбітная асоба беларускай гісторыі, чаго не ведаюць многія людзі ў Расіі і ў нас таксама.

Нядаўна прачытаў вялікі артыкул Арцёма Дзянікіна "Памятник Ольгерду" ў "Аналитической газете "Секретные исследования", №11(292) чэрвень 2013г. Артыкул Арцёма Дзянікіна пачынаецца з адкрытага ліста групы прадстаўнікоў расійскай грамадскасці ў Віцебску да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Вось тэкст гэтага ліста на мове арыгінала: *"Глубокоуважаемый Александр Григорьевич. Обращаемся к Вам как граждане Республики Беларусь, представители различных общественных организаций. Мы обеспокоены планами установки в городе Витебске памятника литовскому князю Ольгерду. Ольгерд не имеет отношения к белорусскому народу. Он агрессор и вероотступник, а также захватчик, беспрестанно воевавший со всеми соседями, разрушавший города и убивавший мирных жителей. Как жестокий злодей России памятен он в русской истории. Недобрый страшный след оставил Ольгерд и в истории христианства. Православная церковь чтит память (27 апреля) святых мучеников литовских, подвергнутых мучительной смерти по его приказу. В свете этих непреложных фактов закономерно возникает вопрос: какими мотивами руководствуются инициаторы установки памятника, какие цели преследуют? Подумал ли кто-нибудь о том, что установка памятника злодею Руси и мучителю христиан может быть оскорбительной для граждан Республики Беларусь – не только русских по национальности и не только православных по вероисповеданию? Тем более, что статую Ольгерда, словно в насмешку, собираются устанавливать прямо напротив православной церкви Воскресения.*

*Мы полагаем, что попытки героизации подобных деятелей могут привести только к расколу общества, духовному и морально-политическому разделению народа Белоруссии. Как понимать слова Государственного гимна Республики Беларусь "Мы, беларусы – мірныя людзі…" и установку памятника завоевателю, оставившему кровавый след в истории, ставшему примером беспринципности и агрессии?*

*Жители Витебска, общественные организации нашего города неоднократно обращались в различные инстанции, в том числе в Витебский облисполком, Администрацию Президента Республики Беларусь с обращениями, в которых выражали свою обеспокоенность планами установки памятника Ольгерду. Однако все эти обращения остались без ответа по существу. Не было проведено и сколько-нибудь широкого общественного обсуждения проекта установки данного монумента.*

*В сложившейся ситуации мы обращаемся к Вам с надеждой на Ваше взвешенное решение, мудрое слово Президента Республики Беларусь, гаранта единства нашего народа и нашей государственности, гаранта прав граждан Республики Беларусь. Мы исходим из того, что Ваши неоднократные заявления о братстве белорусов и русских, о союзнических отношениях с Российской Федерацией, Ваша позиция уважения и поддержки христианских ценностей являются совершенно искренними. Считаем, что установка памятников деятелям, чья роль в истории неоднозначна и вызывает негативные оценки значительной части общества, может явить пример необдуманного шага, провоцирующего конфликт. Полагаем, что так думает большинство граждан Республики Беларусь».*



Пячатка Вялікага князя Літоўскага Альгерда.

Адкрыты ліст падпісалі 8 чалавек: удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, педагогі.

А вось якую гістарычную даведку пра князя Альгерда падрыхтаваў кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Віцебскага дзяржуніверсітэта імя П.Машэрава Анатоль Дулаў: *"Альгерд Гедымінавіч (1296-1377), князь крэўскі і віцебскі, вялікі князь літоўскі і рускі (1345-1377), увайшоў у гісторыю як выдатны палітык і палкаводзец. Паспяхова змагаўся супраць агрэсіі крыжакоў. Праводзіў актыўную ўсходнюю палітыку.*

*За час княжання Альгерда тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага і Рускага пашыралася больш як у два разы, беларускія землі занялі ў дзяржаве цэнтральнае становішча. Гэта спрыяла развіццю іх эканомікі і культуры, умацаванню статуса рускай (старабеларускай) мовы як афіцыйнай, пашырэнню ўплыву ў Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім праваслаўнай царквы. Пры Альгердзе ў Княстве была адноўлена асобная праваслаўная мітраполія.*

*Пра княжанне Альгерда ў Віцебску засталіся скупыя звесткі пісьмовых крыніц, якія дапаўняюцца данымі археалагічных даследаванняў. Вядома, што ў 1318 годзе Альгерд ажаніўся з віцебскай княжнай Марыяй, дачкой князя Яраслава Васільевіча. У 1320 годзе князь Яраслаў памёр. Пасля яго не засталося нашчадкаў мужчынскага полу, таму горад адышоў у спадчыну Марыі Яраслаўне. Віцебскім князем стаў яе муж Альгерд. Такім чынам, Віцебск увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. У 1341 годзе віцябляне на чале з Альгердам дапамагалі Пскову ў барацьбе супраць крыжакоў.*

*Менавіта ў перыяд княжання Альгерда ў Віцебску былі ўзведзены мураваныя Верхні і Ніжні замкі, княжацкі палац (палаты Альгерда). Будаўніцтва вялося каля чвэрці стагоддзя. Абарончы комплекс, што сфарміраваўся ў Віцебску пры князю Альгерду, стаў адным з магутнейшых на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Такім чынам, князь Альгерд унёс значны ўклад у развіццё горада Віцебска, які стаў адміністрацыйным цэнтрам і магутнай мураванай крэпасцю (адной з першых на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і Рускага). Князь клапаціўся аб праваслаўнай царкве, паспрыяў заснаванню Свята-Духава і рамонту Дабравешчанскага храмаў.*



**Альгерд** (**каля** 1296 — 24 **мая** 1377) — **Вялікі князь Літоўскі.** *Гравюра з «Апісання Еўрапейскай Сарматыі», 1578.*

**Працяг будзе.**

# Глыбачанін Аляксей Грамакоўскі адстойваў гонар Беларусі на чэмпіянаце Еўропы па бодыбілдынгу

■ **Яўген Самсонаў**

На 4 чэмпіянаце Еўропы па бодыбілдынгу і атлетызму па версіі сусветнай федэрацыі WBP, які праходзіў 24-27 траўня ў Кіеве, глыбачанін Аляксей Грамакоўскі адстойваў гонар Беларусі. Да гэтага, на 3-ім кубку Украіны па бодыбілдынгу і атлетызму па версіі UBPF, які праходзіў напачатку траўня 2013 года ў Кіеве, наш зямляк увайшоў у дзясятку мацнейшых спартоўцаў Украіны.





Бодыбілдынг - гэта від спорту, дзе суддзі вызначаюць лепшага ўдзельніка, абапіраючыся на «якасць» мускулатуры і ацэньваюць яго дэманстрацыйную праграму і іншае. Заснаваны бодыбілдынг больш за 100 год таму.

Культурызм – гэта французскі аналаг слова бодыбілдынг. Калі даслоўны пераклад слова «бодыбілдынг» – будаўніцтва цела, то слова культурызм азначае – культура цела і практычна паміж імі розніцы няма. Бодыбілдынг складаецца з 3-х непадзельных складнікаў: адпачынку (сон не меней 8 гадзін у суткі, адпачынак для мышцаў не меней 48 гадзін), збалансаванага сілкавання, трэнінгу ў сілавым стылі (2-3 трэніроўкі ў тыдзень - 5-7 практыкаванняў у 2-5 падыходах па 3-15 паўтораў у кожным).



**Крыху біяграфіі Аляксея.**

Нарадзіўся ў 1985 годзе. Вучыўся ў Глыбоцкай СШ №2. Займаўся разьбой па дрэву, турызмам, грэка-рымскай барацьбой, усходнімі адзінаборствамі. Захапіўшыся талентам свайго дзядзькі, вядомага самадзейнага кампазітара Глыбоцкага краю, Браніслава Грамакоўскага, іграў на гітары, сам пісаў вершы і музыку, удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Закочыўшы школу, паступіў у Беларускую сяльгасакадэмію г. Горкі. Займаўся барацьбой дзюдо, а па армрэслінгу выканаў нарматыў майстра спорту. Пасля заканчэння ВНУ, служыў у войску, затым працаваў у Віцебску і амаль увесь вольны час прысвячаў спорту, удзельнічаў у разнастайных спаборніцтвах па рукапашным бoі і шматразова быў прызёрам спаборніцтваў.

Удасканаленнем свайго цела Аляксей пачаў займацца нядаўна, і ў яго вялікія перспектывы на будучыню. Галоўная яго мэта – прайсці адборачныя спаборніцтвы і выступіць на чэмпіянаце свету па бодыбілдынгу, які адбудзецца ў 2016 годзе.

